№ 79 (4126)

www.nv-online.info

11 кастрычніка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



ВІЗІТ

## Уладзімір Макей не маўчаў у Варшаве. Як не маўчалі Анджэй Дуда і Вітальд Вашчыкоўскі

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей учора наведаў Варшаву з нагоды 25-годдзя падпісання дэкларацыі аб добрасуседстве, узаемным разуменні і супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларуссю.

Хоць і не вядомы дэталі размоў У.Макея з прэзідэнтам Польшчы Анджэем Дудам і міністрам замежных спраў Вітальдам Вашчыкоўскім, але ж, можна не сумнявацца, ім было што абмеркаваць. Галоўнае, каб гэты візіт У.Макея пайшоў на карысць і Беларусі, і Польшчы, і ўсяму ўсходнееўрапейскаму рэгіёну, у якім нашы краіны адыгрываюць важную ролю.

*На здымку: Уладзімір Макей у атачэнні польскіх калег.*

АСОБА



*Аляксандра Герасіменя – знакамітая спартсменка – заслугоўвае павагі не толькі за высокія дасягненні на водных дарожках, але і за актыўную грамадзянскую пазіцыю.*

(Працяг на 2-й стар.)

ТЕМА ДНЯ

## Медведев опроверг Семашко

Вчера вице-премьер правительства Беларуси **Владимир Семашко** заявил:

*«Мы отрегулировали все текущие моменты. В третьем квартале заблокирована половина поставки нефти в Беларусь. Мы должны были получить 6 миллионов тонн, а сейчас получаем только 3 миллиона. До 20 октября должна восстановиться поставка нефти в полном объеме под полную загрузку наших НПЗ. Мы тоже сделали компромиссные шаги. Недавно были несколько повышены тарифы на транзит нефти. Мы это возвращаем назад. То есть останутся те тарифы, которые действовали по состоянию на 1 октября».*

Но как быть с огромным долгом, который накопился за этот год по газу? Известный финансовый аналитик Б.Желиба уверен, что отдать его сразу не получится: *«Белорусская сторона будет просить погасить долг в рассрочку. Потому как найти более 300 миллионов долларов (а может, и 400), которые Минск недоплатил Москве в этом году, весьма сложно. Наши золотовалютные резервы на минимуме, и едва-едва вытянули их уровень до нужного размера, чтобы получить кредит от Евразийского банка».*

Белорусская сторона распространила информацию, что достигнута договоренность о снижении цены до 100 долларов за 1000 кубометров газа. Но когда верстался номер, пришла, пожалуй, сенсационная новость из Москвы. Премьер-министр России **Дмитрий Медведев** опроверг Семашко, заявив о том, что цена за поставляемый в Беларусь газ остается прежней. *«Еще раз хотел бы акцентировать внимание, что цена рассчитывается по существующей формуле, никакой корректировки не произведено, необходимо погасить задолженность для того, чтобы восстановить нормальные хозяйственные отношения. Надеюсь, это белорусские партнеры понимают»*, – сказал Медведев на совещании с вице-премьерами в Горках.

Вот тебе, бабушка, и Юрьев день...

**Олег ШЕПЕЛЮК.**

ТРАГЕДЫЯ

## «Так нечакана сустрэцца са смерцю...»

Як паведамлялася, 8 кастрычніка каля 17.30 у сталічны гандлёвы цэнтр "Еўропа" зайшоў 17-гадовы хлопец у незвычайнай амуніцыі. У спартыўнай шапцы, у нейкіх незвычайных акулярах і навушніках. На спіне – чахол ад гітары, у руках – працуючая бензапіла.

– Я знаходзілася літаральна ў некалькіх метрах ад яго, было проста жудасна, – расказвае адна з гандлярак. І паказвае мне невялікую лавачку пасярод радоў. Менавіта на ёй сядзела 42-гадовая **Алена Александравец,** якая загінула.



Эксперты-крыміналісты з затрыманым бандытам.

*"Яна працавала паверхам вышэй, у магазіне акуляраў, спецыяльна спусцілася ўніз, каб купіць калготкі, якія прадаваліся ля гэтай лавачкі. І трэба ж такому здарыцца – прадаўшчыца акурат у гэты момант сышла на вуліцу пакурыць, а таму Алена вырашыла прысесці на лавачку, каб дачакацца. Яна і стала ахвярай гэтага псіхапата. Спачатку ён парэзаў яе бензапілой, а пасля дастаў з чахла сякеру і дабіў. Так нечакана сустрэцца са смерцю..."*

У тым жа цэнтры, усяго ў некалькіх метрах ад месца трагедыі, – піцэрыя. Там хлопец таксама "адзначыўся" – некалькі разоў ударыў наведвальніцу сякерай у грудзі. Жанчына да гэтага часу знаходзіцца ў 10-й гарадской бальніцы.

*"А праз нейкі час ён падняўся на наш паверх*, – распавядае мне яшчэ адна гандлярка. – *Бензапілу пакінуў унізе, спакойна падняўся па лесвіцы... Пастаяў і паглядзеў на прадаўцоў мабільных тэлефонаў, але адвярнуўся і рушыў у мой бок. Спыніўся з сякерай ля майго магазіна. Я якраз па тэлефоне з сяброўкай размаўляла, пачала ёй апісваць гэтага незвычайнага хлопца. Не ведала ж, якая трагедыя ўжо адбылася, а дзівакоў у нас хапае сярод наведвальнікаў. Ён падняў акуляры, уважліва паглядзеў на мяне... Раптам бачу, што прадпрымальнікі бягуць, у руках у іх крэслы. А хлопец развярнуўся – і на іх з сякерай пайшоў. Усе адразу за лаўку з вазонам – ш-шась! Праўда, нехта стул кінуў ды патрапіў у вітрыну нашага магазіна. Я іх нават пасарамаціла: маўляў, а мой магазін пры чым тут? Але затым мужчыны ўсім гуртом спружыліся ды затрымалі дэбашыра. Там адзін прадавец добра дапамог, скруціў яго".*



На месцы, дзе загінула Алена Александравец, – кветкі і гарацьлампадкі.

Ад рук "буйнага наведвальніка" пацярпела яшчэ і прыбіральшчыца.

*"Яна сама – былая дзюдаістка, таму неяк ухілілася з-пад удару*, – распавядаюць мне. – *Таму там рана не вельмі глыбокая, зараз прыбіральшчыца дома. Уяўляеце, жанчыны на сябе ўдар прымалі, а дзе была ахова гандлёвага цэнтра?"*

Паводле слоў прадпрымальнікаў, учора зранку сілавікі прывозілі бандзюгу ў гандлёвы цэнтр на нейкі следчы эксперымент.

Тым часам стала вядома, што малады чалавек (у СМІ з'явілася яго імя – **Улад Казакевіч**) у 2014 годзе праходзіў лячэнне ў псіханеўралагічным дыспансеры. Акрамя таго, як удакладнілі ў праваахоўных органах, ён раней не быў судзімы, рос у забяспечанай сям'і. Бацька пражывае ў Мінску асобна, маці і сястра – за мяжой. Паводле некаторай інфармацыі, у маладога чалавека ёсць уласная кватэра.

*«Рашэнне аб здзяйсненні масавага забойства з асаблівай жорсткасцю затрыманы прыняў даўно. У кастрычніку гэтага года меў намер здзейсніць аналагічнае дзеянне па месцы вучобы, аднак не давёў свой намер да канца па не залежных ад яго прычынах*, – заявілі праваахоўнікі. – *Сваю віну малады чалавек прызнаў. Матывам злачынства, паводле яго слоў, паслужыла расчараванне ў самім сабе, агіда да чалавецтва, дэпрэсіўны настрой».*

Сваёй мэтай ён ставіў забойства як мага большай колькасці людзей і жадаў сам быць забітым пры затрыманні. Дарэчы, вучыўся малады чалавек на першым курсе юрыдычнага факультэта прыватнага Мінскага інстытута прававых і сацыяльных адносін.

...Алена Александравец працавала ў гандлёвым цэнтры ўсяго некалькі тыдняў. Праходзіла стажыроўку. У яе засталіся двое дзетак – сын і дачка. Муж загінуўшай жанчыны (паводле нашай інфармацыі, ён – супрацоўнік міліцыі) распавёў, што размаўляў з жонкай па тэлефоне прыкладна за 15 хвілін да трагедыі. А сёння – развітанне з ёй ...

**Алесь СІВЫ.**

ПА ЧУТКАХ І...

## У працуючых пенсіянераў забяруць 40% пенсіі?

Адразу некалькі чытачоў з розных рэгіёнаў Беларусі звярнуліся ў рэдакцыю з адным і тым жа пытаннем: ці праўда, што з 2017 года з пенсій пенсіянераў, якія працягваюць працаваць, будуць утрымліваць 40% пенсіі? Тыя, хто тэлефанаваў, сцвярджалі, што інфармацыю атрымалі, як кажуць, з першых вуснаў – з мясцовых органаў сацыяльнай абароны.

– *Такія чуткі ходзяць, але ніякіх афіцыйных дакументаў у нас на ўзгадненні няма*, – патлумачылі нам у аддзеле пенсіённага забеспячэння Камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама.

**– А колькі сёння недаатрымліваюць тыя пенсіянеры, хто працягвае працаваць?**

– *Па-рознаму. У пенсіянераў з маленькай дапамогай, якія працягваюць працаваць, могуць наогул нічога не вылічваць. Пенсія выплачваецца ў поўным аб'ёме, калі ў працуючага пенсіянера індывідуальны каэфіцыент менш за 1,3. У каго звыш 1,3, сума выліку яшчэ залежыць і ад працоўнага стажу, і ад віду пенсіі. Але які гэта працэнт ад пенсіі, можна сказаць, калі разлічыць пенсію канкрэтнага пенсіянера.*

Паводле некаторых дадзеных, сёння максімум, які могуць вылічваць з дапамогі працуючага пенсіянера, не перавышае 25 працэнтаў. З тых, у каго значны індывідуальны каэфіцыент і вялікі працоўны стаж, як правіла, утрымліваюць 18–20 працэнтаў. Напрыклад, у нашай чытачкі – пенсіянеркі Ніны Міхайлаўны індывідуальны каэфіцыент 2,7, а працоўны стаж 32 гады. Яе пенсія складае 377 рублёў 4 капейкі, але яна працягвае працаваць і атрымлівае дапамогу ў памеры 306 рублёў 81 капейка. То бок з яе пенсіі ўтрымліваюць 18%. Калі з новага года з пенсій пенсіянераў, якія працуюць, будуць утрымліваць 40% пенсіі, то дапамога Ніны Міхайлаўны "ўсохне" да 226 рублёў 22 капеек, і дзяржава сэканоміць на яе пенсіі 150 рублёў 82 капейкі. Ці будзе сэнс працягваць працаваць?

Можа, гэтага і дамагаюцца ўлады – яшчэ больш сэканоміць на пенсіях?

– *Абсалютна рэальны сцэнарый*, – лічыць экс-міністр працы і сацыяльнай абароны **Аляксандр Сасноў.** – *У краіне няма грошай, эканоміка не працуе, а праводзіць рэформы нашы кіраўнікі не хочуць з-за боязі страціць уладу. Яны шукаюць любыя варыянты ў чарговы раз абрабаваць насельніцтва.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

В МИРЕ

## Ужасный ураган «Мэтью»

Стихия начала свой разрушительный путь со стран Карибского бассейна. «Мэтью» стал самым мощным ураганом в этом регионе с 2007 года, унеся жизни более 1000 человек на Гаити, а также в нескольких других странах региона.

Ураган сопровождался сильными ливнями и ветром. На Гаити он привел к наводнениям и оползням.

Большинство людей, погибших в результате урагана, проживали в трущобах маленьких городков и в деревнях возле южного побережья, многие погибли под упавшими деревьями, обломками разрушенных зданий, утонули в вышедших из берегов реках.

По данным ООН, около 350 тысяч человек на Гаити нуждаются в помощи.



РАЗВІТАЛЬНЫЯ СЛОВЫ

## Анджэй Вайда: in memoriam



Сумная вестка прыйшла з Польшчы. На гэтым свеце паменела на аднаго чалавека-легенду. Пражыўшы немалое і надзвычай насычанае творчае жыццё, 9 кастрычніка памёр вялікі рэжысёр Анджэй Вайда.

Два разы, у 2005-м і 2009 гадах, Вайда сустракаўся з настаўнікамі і вучнямі Беларускага гуманітарнага ліцэя. Добра памятаю, як падчас першай сустрэчы ў варшаўскім прадмесці Ламянкі ён, атрымаўшы запіску ад аднаго з ліцэістаў "А ці не хацелі б вы, спадар Вайда, як мы, вучыцца ў падпольным ліцэі?", адказаў: "А я якраз і вучыўся! Падчас вайны акупанты-немцы дазвалялі палякам мець толькі пачатковыя школы, і нямала людзей заканчвалі сярэднюю школу ў падполлі: нават адпаведныя дакументы нам выдаваліся з подпісамі і пячаткамі!"

Падчас абедзвюх сустрэч уразіла тое, што чалавек сусветнай вядомасці і ўжо вельмі саліднага веку не шкадаваў свайго часу на размову з падлеткамі: першы раз яна доўжылася дзве з паловай, другі раз (ужо ў цэнтры Варшавы) – больш за дзве гадзіны! Памятаю, што спачатку спадару Анджэю спрабавалі перакладаць яго беларускіх суразмоўцаў, але потым ён сказаў, што ўсё разумее, – і не дзіва: ён нарадзіўся ў Сувалках, дзе палякам былі не чужыя ні беларуская, ні літоўская мовы...

Другая сустрэча адбывалася пасля прагляду ліцэістамі стужкі "Катынь", якая ўразіла сваім суровым рэалізмам. Спадар Вайда распавёў нам, як паўставала задума гэтага фільма. Па-першае, бацька будучага рэжысёра быў сярод тых мабілізаваных у першыя дні вайны з запасу, а потым інтэрніраваных Чырвонай Арміяй польскіх афіцэраў, што былі расстраляны, праўда, не ў самой Катыні, а ў Харкаве. Па-другое, яшчэ ў час камуністычнай Польшчы знакаміты кампазітар Кшыштаф Пендэрэцкі сказаў рэжысёру, што, калі той ("калі надыдуць іншыя часы") будзе здымаць фільм пра Катынь, ён гатовы напісаць да яго сваю музыку. Так яно, урэшце, і здарылася...

Анджэй Вайда быў адным з падпісантаў "Дэкларацыі ў падтрымку свабоды творчасці ў Беларусі", якую напрыканцы 1990-х падпісала нямала вядомых беларускіх і польскіх творцаў. Самае ж галоўнае, чым ён запомніўся, безумоўна, не аднаму мне – гэта яго надзвычайная дэмакратычнасць у паводзінах, уменне слухаць і імкнуцца зразумець іншых.

Свет пабяднеў яшчэ на аднаго Вялікага Чалавека, якога можна смела ставіць у адзін шэраг з Махатмам Гандзі, Вацлавам Гавелам, Васілём Быкавым або маці Тэрэзай... Вечны яму спачын!

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**

